Цана 15 гр.

Przesyłka opłacona ryczałtem

# БЕЛАРУСКІ ФРОНТ

НЕЗАЛЕЖНЫ НАРОДНА-РАДЫКАЛЬНЫ ЧАСАПІС

РЭДАКЦЫЯ і АДМІНІСТРАЦЫЯ:
Вільня, Вострабрамская 2—11
(Wilno, Ostrobramska 2—11).
Адчынена ад 9 да 19 г.

Часапіс выходзіць раз у месяц

Выпіска: на год 2 зал.
на паўг. 1 зал.
на 3 м-цы 50 гр.

№ 7 | Вільня, 5-га лістапада 1936 г. | Год I.

## Беларускае літвафільства.

У прошлым нумары „Б. Фронту“ мы паддалі крытыцы адну з форм заходняй ар‘ентацыі беларусаў, а іменна — палянафільства. Асьветляючы ўсебакова гэту ар‘ентацыю, мы прыйшлі да таго вываду, што ідэйнае палянафільства пасярод беларусаў як з прычын глыбейшых (псыхолёгічных, палітычных і сацыяльных рожніц паміж палякамі і беларусамі)так і з прычын пераходных (адносіны польскага ўраду да беларусаў) ёсьць у сучаснасьці немагчымым. Цяпер разгледзім іншы кірунак заходняй ар‘ентацыі беларусаў, а іменна — літвафільства.

Глянуўшы ў мінуўшчыну, мы бачым, што гэты кірунак беларускай палітычнай думкі меў (так як і мае) пасярод беларусаў шмат прыхільнікаў. Не чапаючы нашай сівой і далёкай мінуўшчыны, калі беларусы і літоўцы тварылі, баранілі і разам жылі ў аднэй дзяржаве, якая называлася В. Княствам Літоўскім, а разглядаючы падзеі толькі апошніх дзесяткаў гадоў, трэба прызнаць, што літвафільства ў беларускіх дзеячоў, пачынаецца бадай ад самага пачатку беларускага адраджэнскага руху. Праўда, што і літоўскія дзеячы ў часы супольнай нявол адносіліся вельмі спагадліва да беларускага адраджэньня, аднак аб‘ектыўны падыход да справы прымушае сьцьвердзіць, што пасярод беларусаў было больш літвафільства, чым пасярод літоўцаў беларусафільства. Літоўскія дзеячы з аднаго боку ня лічыліся з беларускім рухам, не бачачы ў ім дынамічнай сілы, а з другога — баяліся яго, як новага палітычнага фактара на Ўсходзе. Літоўцы спачатку глядзелі на беларускае адраджэньне як на нярэальную імпрэзу, якая ня мае пад сабою мацнейшага грунту. Яны бралі пад увагу цяжкое палажэньне беларусаў паміж двама вялікімі народамі, якія культурна і рэлігійна закараніліся ў нашым народзе, дзелячы яго на дзьве часьці; падчырківалі нястачу гістарычнай традыцыі, якая ў адраджэньні кожнага народу адыгрывае вялікую ролю; паказвалі на нястачу інтэлігенцыі і ў рэзультаце глядзелі на беларускі рух вельмі пэсымістычна. З другога боку яны баяліся, што беларускі рух, набраўшы сілы, можа заявіць аб сваіх прэтэнсіях да Вільні і Віленшчыны, на якую літоўскія дзеячы глядзелі (так як і цяпер глядзяць), як на збеларушчаную частку Літвы.

Рэальныя палітыкі баяцца ўсякіх перамен, бо гэтыя перамены могуць выклікаць паўстаньне новых фактараў, з якімі трэба будзе лічыцца. Будучы ў сваім пракананьні рэальнымі палітыкамі, літоўскія дзеячы лічыліся толькі з расейскім і польскім народамі (апрача нямецкага), як з рэальнымі фактарамі, а на беларускі фактар яны глядзелі як на нешта загадковае і няпэўнае, могучае пры гэтым выклікаць розныя закалоты ў літоўскіх палітычных плянах.

Гэтак было да Вялікай вайны, а лепш кажучы, да расейскай рэвалюцыі 1917 г. У гэтым годзе пачынаецца масавы беларускі рух і зараз пасьля рэвалюцыі (ў сакавіку 1917 г.) склікаецца ў Менску зьезд беларускіх дзеячоў, на якім была выбрана дэлегацыя да расейскіх уладаў, каб прадставіць ёй пажаданьні беларускага грамадзянства. Дэлегацыя была ў Петраградзе ў першых днях красавіка гэтага-ж году і пабываўшы ў расейскіх уладаў, пастанавіла запрапанаваць існаваўшаму тады ў Петраградзе Літоўскаму камітэту цеснае супрацоўніцтва. Дзеля гэтага адбыліся дзьве канфэрэнцыі беларускай дэлегацыі з прадстаўнікамі Літоўскага камітэту: адна інфармацыйная, а другая—дэцыдуючая. На інфармацыйнай канфэрэнцыі беларусы паставілі прапазыцыю супольнай працы на палітычным грунце з далейшай мэтай адбудовы даўнейшага В. Княства Літоўска-Беларускага. Як матывы супрацоўніцтва беларусы выстаўлялі: a) слаўную супольную гістарычную мінуўшчыну, b) супольнасьць палітычных і сацыяльных інтарэсаў, прычым паказвалася на патрэбу для беларусаў доступу да Балтыкі, а для літоўцаў абшырнага заплечча—hinterlandu, c) супольную абарону перад сільнымі суседзямі.

На другой канфэрэнцыі беларусы атрымалі ад літоўцаў адказ. Гэты адказ быў *адмоўны* дзеля такіх прычын: a) літоўская справа ёсьць ужо справай міжнароднай, а беларуская—толькі нутраной расейскай і дзеля гэтага літоўцы ня могуць сваей літоўскай справы вязаць з беларускай, b) справа утварэньня д. В. Княства Літоўска-Беларускага для літоўскай палітыкі ў сучаснасьці ня ёсьць актуальнай. Атрымаўшы такі адказ, беларусы пакінулі паседжаньне і літоўская ар‘ентацыя пасярод беларусаў замёрла.

Але ў 1919-20 гадох паміж Літвою і Польшчай разгараецца спор за Вільню і Віленшчыну. У гэтым споры Літва шукае саюзьнікаў і зварочвае большую ўвагу на беларусаў. Ад гэтага часу пачынаецца літоўскае беларусафільства і беларускае літвафільства. Літва дае прыпынак антыпольскаму ўраду Ластоўскага, фармуе беларускі батальён, утварае міністэрства да беларускіх спраў, дае субсыдыі на выдавецтва беларускіх кніжак і г. д. Аднак гэтакая шырокая беларусафільская палітыка трывала нядоўга. Літва, адсунутая Польшчай ад Вільні і Віленшчыны, касуе бел. міністэрства, беларускі батальён, спыняе грашовую падмогу на выдавецтва бел. кніжак—і ўканцы беларускі ўрад Ластоўскага пакідае Літву...

Але гэта ня спыняе прыязных адносін беларусаў і літоўцаў. Як у літоўскім грамадзянстве так і беларускім паўстаюць групы, якія праводзяць узаемную прыязную палітыку, ідучы кожная да сваіх мэтаў. Літоўцы ідуць да асягненьня лініі Маскоўскага літоўска-савецкага дагавору з 1920 году (лінія: Слабодка—рака Нарач—Нёман-Саколка-Аўгустоў), спадзяючыся ў гэтай справе на помач беларусаў, а беларусы-літвафілы да асягненьня сваіх мэтаў. Але калі ў літоўскім беларусафільстве мы бачым зусім рэальныя і спрэцызаваныя мэты, дык у беларускіх літвафілаў мы гэтакіх мэтаў, карысных для ўсяго беларускага народу, ня бачым. Пару гадоў таму на бачынах літвафільскай прэсы была праведзена дыскусія, у якой быў выражаны пагляд, што калі-б Польшч дзеля нейкіх палітычных мэтаў захацела пагадзіцца з Літвою і ўступіла ёй як найвялікшую часьць беларускіх зямель, то бядаваць няма чаго, бо беларусы на гэтым нічога не страцілі-б... (гл. „Бел. Крыніцу“ № 20, 1934 г.). На такую пастаноўку справы згаджалася ня ўсё беларускае грамадзянства, а толькі частка яго. Большасьць цьвярдзіла, што гэта быў-бы новы падзел Беларусі.

Характэрызуючы літоўскую палітыку адносна беларусаў, трэба сьцьвердзіць, што Літва ў навейшых часох ніколі не ставіла беларускай праблемы ў цэлай шырыні і глыбіні, так як гэта рабілі Міндоўг, Гэдымін, Вітаўт, або так хаця-б як напр. польская палітыка за часоў марш. Пілсудскага ставіла ўкраінскую праблему. Літва ніколі не імкнулася да стварэньня незалежнай Беларусі, як сваей саюзьніцы, каб адгарадзіцца ад Расеі. Яна стаяла і стаіць на вузейшай плятформе, а іменна на грунце адбудовы Літвы па Нарач і Нёман, а там—няхай сабе будзе Расея... Паводле некаторых літоўскіх палітыкаў Расея была-б—нават карысьнейшай для Літвы, бо магла-б уступіць ёй Вільню і Віленшчыну, як для яе чужую, чаго Беларусь зрабіць не магла-б...

Апроч гэтага перашкодамі да поўнага зьбліжэньня беларусаў і літоўцаў ёсьць з боку літоўскага страх перад беларускай стыхіяй, якая, ўступаючы на ўсіх фронтах, робіць быццам здабычы на фронце літоўскім, адсоўваючы літоўскую этнаграфічную мяжу штораз болей на захад; баязьнь будучага канфлікту за Віленшчыну і побач з гэтым прakананьне аб сваей гістарычнай, культурнай і палітычнай вышшасьці над беларусамі. З боку беларускага—незразумеласьць літоўскай мовы і дзеля гэтага нейкая далёкасьць ад літоўцаў; адчуваньне літоўскага наступу на беларускія, або як літоўцы кажуць, збеларушчаныя землі; эгоізм літоўскай сучаснай палітыкі, якая памінае інтарэсы беларускага народу, а мае на воку толькі свае — ўсё гэта ўстрымлівае большасьць беларускага грамадзянства ад літвафільства. Беларускае грамадзянства, наколькі мы ведаем, і далей стаіць на грунце прапазыцыяў, зробленых беларускай дэлегацыяй літоўскаму камітэту ў 1917 г. з тым, што ў будучыне ўсе спрэчныя справы могуць быць вырашаны абодвыма народамі праз свае легальныя прадстаўніцтвы. Ад сябе адзначым, што *ў сучаснасьці* беларусы і літоўцы ня маюць ніякіх прычын да спрэчак, а што датыча *будучыні*, то жывучы пасуседзку, ўсё магчыма... Толькі ня трэба забывацца аб тым, што ніхто ня ведае, якія ў будучыне будуць прычыны і магчымасьці як да спрэчак, так і да згоды...

## У справе супольнага сьвяткаваньня юбілеяў БІГ і К і ТБШ.

Дзьве нашыя культурныя арганізацыі — БІГ і К і ТБШ зьяўляюцца ў гэтым годзе аб‘ектам зацікаўленьня з розных бакоў. У нумары 4 „Б. Фронту“ мы ўжо пісалі, што ўлетку віленская „Karta“, якая стаяла на грунце „людовага“ фронту ў Польшчы, закранула гэтую справу ў кірунку надта дзіўным, а іменна, што арганізацыі гэтыя павінны абавязкава зьліцца. Вызначыла нават час, калі гэта мае адбыцца: канец школьнай акцыі ў гэтым годзе. Паўтарылася гэта і ў частцы беларускай прэсы. Чуткі гэтыя ўстрывожылі абедзьве арганізацыі, каторыя, імкнучыся да згоднае

працы на ніве беларускае культуры, поўнае злучэньне з шмат якіх прычын лічаць шкодным. Таму Галоўная Управа ТБШ на арган. сходзе 7 ліпня г. г. (гл. Летапіс № 4-8), разгледзіўшы справу кінутай у прэсе думкі злучэньня ТБШ і БІГ і К., сьцьвердзіла, што арганізацыі гэтыя маюць *розныя ідэолёгічныя асновы, розную традыцыю і розны круг уплываў* і дзеля гэтага выказалася рашуча супроць зьліцьця, лічучы гэта немагчымым. Затое Гал. Управа ўважае, што супрацоўніцтва між гэтымі арганізацыямі на ніве культурна-асьветнай ёсьць ня толькі пажаданым, але і неабходным. БІГ і К стаіць, наколькі нам ведама, на гэтакім самым становішчы, аднак ужо пастановы ТБШ хопіць, каб сьцьвердзіць якія адносіны хочуць падтрымліваць між сабой гэтыя арганізацыі: цеснае супрацоўніцтва на ніве беларускай культуры пры адначаснай апрычонасьці гэтых арганізацыі. Адсюль лёгічны вывад, што розныя пытаньні, якія датычаць цесна толькі аднэй арганізацыі, павінны быць вырашаны ёй-жа; усялякіх-жа шагоў, каторыя фактычна „зьлівалі-б“ ТБШ і БІГ і К ўвадно, трэба высьцерагацца.

Да ліку гэткіх шагоў, паводле нас, належыць справа супольнага сьвяткаваньня 15 угодкаў ТБШ і 10—БІГ і К, якія прыходзяцца сёлета. Юбілей такі з натуры свае — гэта сьвята чыста арганізацыйнае. Супольнае яго сьвяткаваньне ніколі не практыкуецца, але каб яно, скажам, і было магчымым, дык хіба што толькі ў прыпадку поўнай ідэнтычнасьці арганізацый. Калі-ж, як у нас, напр. ТБШ сьцьвярджае сваю поўную апрычонасьць у ідэолёгічных асновах, традыцыі і крузе ўплываў, дык супольны абход юбілеяў быў-бы ненатуральным і нават нейкім ідэолёгічным гвалтам над гэтымі арганізацыямі, а ў кожнага бесстороньняга наглядчыка выклікаў-б думку, што тут хаваецца нешта іншае...

Мы-б і не парушалі гэтай справы, пакідаючы яе цалком успомненым арганізацыям, каб яна не зьявілася на шпальтах беларускай прэсы. Гэтак, „Бел. Крыніца“ ў № 42 у перадавіцы „15 угодкі ТБШ і 10 БІГ і К“ стараецца абаснаваць патрэбу супольнага абходу юбілеяў і паклікае аж шэсьць аргумэнтаў на гэта. Аргумэнты гэтыя аднак зусім непераконываючыя. Першы і найважнейшы — гэта той, што ТБШ і БІГ і К арганізацыі ідэнтычныя з кожнага погляду. Але якжа-ж можна гэтаму паверыць, калі ТБШ у толькі што цытаванай пастанове рашуча сьцьвердзіла што іншае! А хіба што голас ТБШ мае тут дэцыдуючае значэньне, так як і Інстытуту.

Другі аргумэнт, быццам сьвяткаваньне супольна дня беларускай культуры, не ўспамінаючы аб селётніх юбілеях, было-б „самазьніштажэньнем“, „аплёвываньнем самых сябе, свае працы, сваіх натугаў“ — зьяўляецца проста незразумелым. Хто-ж можа быць супроць, калі-б, скажам, *успомніць* аб сёлетніх юбілеях ТБШ і БІГ і К пры абходзе дня беларускай культуры, ладжанага аднак самастойна, не з нагоды юбілеяў! Нам здаецца, што „Б. Кр.“ мела тут на ўвазе ладжаньне юбілеяў у форме сьвята беларускай культуры. Аднак калі-б зладзіць сьвята беларускай культуры без юбілеяў — дык чаму гэта мае быць „самааплёвываньнем“ і аж нават „самазьніштажэньнем“? Ці-ж беларуская культура гэтак мала заслугоўвае на ўвагу, што абход, скажам, ейнага дня без якойсь нагоды — гэта наша самазьніштажэньне? А каб, прыкладам, беларусы ўвялі штогоднае сьвята дня беларускай культуры, як гэта робяць расейцы — дык ці-ж гэта было-б „самааплёвываньнем“ і „самазьніштажэньнем“?

Трэці аргумэнт кажа, што калі разам юбілеяў не сьвяткаваць, дык гэта пацьвердзіла-б паклёпы нашых ворагаў, што нашыя арганізацыі зьяўляюцца палітычнымі экспозытурамі беларускіх партыйных групаў. Рада на гэта ёсьць іншая: трэба каб партыйныя групы ня ўмешваліся ў жыцьцё культурных арганізацыяў, супольны-ж юбілей тут нічога не паможа, а нават пашкодзіць, бо дасьць магчымасьць дапушчаць нейкую палітычную асноведзь гэтага сьвята. Ды і ня трэба зьвяртаць увагі на паклёпы ворагаў, бо яны заўсёды будуць, хоць-бы ў нас ўсе адбывалася ідэальна.

Урэшце „Б. Кр.“ кажа, што сьвяткаваньне юбілеяў паасобку — гэта самапаяданьне. Чаму самапаяданьне? Ня трэба кідацца ў процілежныя бакі, бо карысьці гэта не прынясе. Скажам адкрыта, што як ня трэба конкурэнцыі і „самапаяданьня“ арганізацыі, так ня трэба і „*самаліквідацыі*“ супроць волі арганізацыяў, бо гэткім парадкам можна згуляць у руку некаму „трэцяму“ з выразнай шкодай для беларускай справы.

Іншыя аргумэнты — быццам усё беларускае грамадзянства дамагаецца супольнага юбілею — гэта толькі суб'ектыўнае пераконаньне людзей, якія стаяць каля „Б. Крыніцы“. Усё незалежнае грамадзянства проціў супольнага сьвяткаваньня юбілеяў, бо бачыць у гэтым спробы некаторых дзейнікаў да поўнага зьліцьця гэтых двух арганізацыяў.

Гэткія думкі насунуліся нам з нагоды ўспомненых юбілеяў.

*Ш.*

# На беларускім грунце.

(*Агляд беларускага жыцьця*).

### *Мэмор'ял БІГ і К і ТБШ прэм'еру польскага ўраду.*

Як ведама, успомненыя дзьве арганізацыі абвесьцілі сёлетні год годам дамаганьня роднай школы. У часе гэтага дамаганьня здарыліся такія факты, якія прымусілі абедзьве арганізацыі выступіць перад цэнтр. польскімі ўладамі з жаданьнем спыненьня ненармальных адносін на нашых землях. Некаторыя факты з гэтых ненармальных адносін былі публікаваны ў прэсе, а некаторыя не маглі быць апублікаваны з ведамых прычын.

Зьмест мэмор'ялу — гэта справа школьнай і зашкольнай асьветы агулам бяручы, а так-жа справа сёлетняга школьнага плебісцыту ў асобнасьці. Мэмор'ял абшырны, мае 13 бачын машыновага пісьма in folio. Складаецца з чатырох частак: у першай прадстаўлена гісторыя беларускага школьніцтва ў Польшчы, яго развіцьцё і заняпад, пры гэтым паказаны прычыны заняпаду: прычыны гэтыя зусім незалежныя ад беларускага грамадзянства; у другой — варункі сёлетняй школьнай акцыі, якія ёсьць вельмі цяжкімі; у трэцяй — варункі, пасярод якіх працуюць беларускія-арганізацыі на вёсцы, хочучы там праводзіць культурна-прасьветную зашкольную працу; ў чацьвертай — прадстаўлены польскаму ўраду жаданьні. Жаданьні датычаць ніжэйшага, сярэдняга і вышэйшага школьніцтва, поўнай фактычнай свабоды ў падаваньні дэкляраціяў за беларускую школу, а такжа свабоднай працы для бел. культурна-асьветных арганізацыяў у праводжаньні зашкольнай асьветы. Апроч мэмор'ялу БІГ і К і ТБШ пастанавілі выслаць у Варшаву так-жа дэлегацыю, якая мела-б прадставіць прэм'еру вусна свае выясьненьні і пажаданьні. Копія мэмор'ялу выслана міністру Асьветы.

### *Мэмор'ял Праваслаўнаму Мітрапаліту.*

БІГ і К і ТБШ падалі так-жа мэмор'ял Мітрапаліту Прав. Царквы ў Польшчы. У гэтым мэмор'яле прадстаўляецца сумны стан навучаньня беларускіх дзяцей праваслаўнай рэлігіі, якая выкладаецца ў чужой для беларускіх дзетак расейскай або польскай мове і дзеля гэтага не трапляе да іх душ. У мэмор'яле выказана дамаганьне навучаньня рэлігіі праваслаўных дзяцей пабеларуску. Апроч гэтага да Мітрапаліта высылаецца дэлегацыя, якая выкажа яму пажаданьні бел. праваслаўнага насельніцтва ў Польшчы.

### *Юбілей Коласа і сьвята Беларускай Культуры.*

БІГ і К на адным з сваіх паседжаньняў пастанавіў сёлета наладзіць акадэмію з прычыны 30-ых угодкаў літэратурнай дзейнасьці нашага вялікага паэта Якуба Коласа. Пастаноўлена выступіць з прапазыцыяй да ТБШ супольнага сьвяткаваньня гэтага юбілею. Дзеля зладжаньня гэтай акадэміі з боку Інстытуту выбрана камісія ў складзе кс. В. Гадлеўскага, мгр. М. Шкелёнка і інж. А. Клімовіча.

Апроч гэтага абгаварывалася справа сьвяткаваньня штогод Дня Беларускай Культуры. Прынцыпова справа сьвяткаваньня вырашана ў кірунку пазытыўным, пры гэтым выражана пажаданьне, каб гэтае сьвяткаваньне абходзіць разам з ТБШ, аднак пры рэалізацыі гэтага пажаданьня ўсплылі некаторыя труднасьці, аб каторых ніжэй.

### *Разам ці аддзельна?*

Пасярод віленскага беларус. грамадзянства ў апошнія месяцы ўзьнялася шырокая дыскусія, якая знайшла водгук і ў прэсе, ці юбілеі 10-ых угодкаў існаваньня БІГ і К і 15-ых ТБШ сьвяткаваць разам ці аддзельна? На іншым месцы нашай газэты мы пасьвячаем гэтай справе адумысловы артыкул, тут хацелі-б адзначыць, што Цэнтр. Урад БІГ і К разглядаў гэтую справу на цэлым радзе паседжаньняў і пастанавіў большасьцю галасоў сьвяткаваць аддзельна. Тады быў падняты другі праект: каб пры сьвяткаваньні дня Беларускай Культуры паставіць дадатак „з нагоды 10 угодкаў БІГ і К і ТБШ“, але большасьць Цэнтр. Ураду пастанавіла сьвяткаваць Дзень Бел. Культуры без дадатку „з нагоды“. Зроблена гэта з тае прычыны, што гэты дадатак усёжтакі сьведчыў-бы аб нейкай арганізацыйнай еднасьці БІГ і К і ТБШ, каторай гэтак хочацца некаторым „дзейнікам“, ды апроч гэтага сьвяткаваньне такога паважнага народнага сьвята, як Дзень Бел. Культуры з гэткім дадаткам выглядала-б непаважна. Большасьць Цэнтр. Ураду Інстытуту стала на тым становішчы, што Дзень Бел. Культуры трэба сьвяткаваць кожны год без ніякай нагоды, а проста як агульна-беларускае сьвята. Калі-б паставіць дадатак „з нагоды“, то магло-б здавацца, што каб ня было „нагоды“ сёлетніх юбілеяў, дык ня было-б і сьвята Бел. Культуры. Аднак меншасьць Цэнтр. Ураду з гэтым не згадзілася і адклікнулася да рэвізыйнай камісіі, якая з

# Абход 30-год. юбілею літэратурнай працы Якуба Коласа ў Менску.

З нагоды прыпадаючых сёлета 30-х угодкаў літэратурнай дзейнасьці вялікага беларускага песьняра Якуба Коласа 11 кастрычніка ў салі І-га Бел. Дзяржаўнага Тэатру ў Менску зладжана была ўрачыстая акадэмія. Сабраліся прадстаўнікі Цэнтр. Камітэту Кам. Партыі Беларусі, Ураду, арганізацый, школьнікі, госьці. Прэзыдыюм акадэміі ўканстытуаваўся ў складзе: Якуба Коласа, Гікалы (быў няпрысутны), Галадзеда, Чэрвякова, Сурты (прэз. Акад. Навук. Бел.), Дзякава (камісар асьветы БССР), Янкі Купалы, Александровіча (паэт), Туранкова (ведамы беларускі кампазытар) і іншых выдатных дзеячоў БССР а таксама гасьцей. Акадэмію адчыніў уступным словам пабеларуску камісар асьветы БССР Дзякаў, які падаў кароткія біографічныя дадзеныя аб Коласе і падчыркнуў, што Колас амаль да апошняга часу (1933 г.) не разумеў „запраўдных“ шляхоў беларускага адраджэньня, якія паказвала камуністычная партыя і знаходзіўся ў лагеры беларускіх нацыяналістаў. Выхад з гэтага кругу паказала Коласу камуністычная партыя ў 1933 г. Гэткае доўгае прабываньне Коласа ў лагеры беларускіх нацыяналістаў дало повад беларускім „контррэволюцыянэрам усіх масьцей“ залічваць Коласа ў свае рады. Аднак, паводле дакладчыка, зрух, які адбыўся ў паглядах Коласа ў 1933 г. і разгром нацдэмаўшчыныаканчальна вырвалі яго з нацдэмаўскага лагеру. Колас стаўся песьняром сталінаўскай эпохі і пайшоў за камуністычнай партыяй, якая з свайго боку яму дапамагала ў гэтым кірунку. У канцы свайго слова Дзякаў спыніўся над агульнымі ўмовамі творства пісьменнікаў у БССР і лічыць іх дасканальнымі. Есьць-жа яны рэзультатам ленінска-сталінаўскай нацыянальнай палітыкі.

Пасьля ўступнага слова Дзякава прачытана была прывітальная тэлеграма (парасейску) ад сэкр. Кам. П. Беларусі Гікалы. У тэлеграме Гікала падчырківае заслугі Коласа перад партыяй (адзін з складальнікаў ведамага пісьма Белар. Народу да Сталіна і Варашылава); Колас асабліва павінен быць шчасьлівы, што юбілей яго прыпадае на час, калі ў Саветах мае быць уведзена „дзівосная“ (слова Коласа) канстытуцыя. Пасьля гэтага прэзыдыюм акадэміі абвесьціў пастанову Савнаркому Беларусі; на падставе гэтай пастановы за Коласам закраплялася дача з „абарудаваньнем“ і самаход на ўласнасьць, як нагарода.

Па прывітаньнях юбіляра школьнікамі Менска выступіў з рэфэратам аб жыцьці і творчасьці Коласа кіраўнік па справах мастацтва Пасюкевіч. Дакладчык коратка спыніўся над жыцьцём паэта. Сын лясьніка, цесна злучаны з вёскай ад дзяцінства, ён адчуваў яе жыцьцё, гора; песьні аб вёсцы — гэта песьні жальбы. Надыходзе рэволюцыя 1905 г. Колас ужо, як настаўнік, прыймае ўдзел з нац.-сацыяльным адраджэньні беларускага народу. За ўдзел у нелегальным зьезьдзе настаўнікаў у 1908 г. асуджаны на тры гады турмы. Вялікі ўплыў на творчасьць Коласа мелі Пушкін, Гогаль, Шэўчэнка, што беларускія нацдэмы скрываюць, як факт для іх некарысны. Далей прыйшлі гады заняпаду ў творчасьці Коласа і гэты пэрыяд трываў аж да 1933 г. Заняпад гэты палягаў на тым, што Колас не зразумеў правільнага шляху вызваленьня беларускага народу, паказанага камуністымі і праз увесь гэты час быў у лагеры беларускіх нацыяналістаў. Матыў нацыянальны пануе ў яго творчасьці і звужае яе рамы. Сымон Музыка — гэта тыповы твор Коласа, напісаны пад „*даўленьнем*“ беларускага нацыяналізму. Колас быў у палоне беларускіх нацыяналістаў — кажа дакладчык. Незадоўга да 1933 г. ў паэта спасьцярагаецца

свайго боку зажадала скліканьня Рады Інстытуту. Цэнтральны Урад на сваім паседжаньні дня 23.X. г.г. пастанавіў Раду склікаць на 15.XI. якая мае вырашыць аканчальна пытаньне: сьвяткаваць юбілеі разам ці аддзельна, з дадаткам „з нагоды“, ці без дадатку.

На наш пагляд, агульна-беларускія справы, як: дамаганьне роднай школы, сьвяткаваньне дня Бел. Культуры, юбілеі Коласа, Купалы і інш. трэба абходзіць разам і супольнымі сіламі, але свае собскія юбілеі, якія ня маюць агульна-беларускага значэньня, трэба абходзіць аддзельна. Гэтым кожная арганізацыя падчырківае сваю самастойнасьць і незалежнасьць ад тых сілаў, якія хочуць ліквідацыі аднэй арганізацыі і ўліцьця ў другую. Шум падняты каля гэтай справы, сьведчыць, што некаторыя дзейнікі хацелі-б супольнаму сьвяткаваньню юбілеяў надаць палітычны мамэнт, вось-жа і дзеля гэтых палітычных мамэнтаў трэба юбілеі сьвяткаваць асобна. Думаем, што і Рада Інстытуту не захоча злучаць у адну арганізацыйную цэласьць нашых дзьвух арганізацыяў, якія маюць сваю гісторыю, свае асобныя мэты і свае аддзельныя ўрады. Мы праканаты, што зьліцьцё ці злучэньне БІГ і К і ТБШ для беларускай справы будзе некарысна.

### З дзейнасьці БІГ і К.

На адным з сваіх паседжаньняў Цэнтральны Урад БІГ і К пастанавіў узнавіць Акружны Аддзел у Вільні і ўтварыць такія-ж Аддзелы ў Шальцінах, Жодзішках і Мядзьведзічах. Мэтай ўтварэньня Аддзелаў было ажыўленьне дзейнасьці Інстытуту на правінцыі, а так-жа дакамплетаваньне Рады Інстытуту, якая мае вырашыць прынцыповае пытаньне аб супольным арганізацыйным сьвяткаваньні юбілеяў БІГ і К і ТБШ. Паводле Статуту, старшыні Аддзелаў уваходзяць у Раду Інстытуту і будуць мець рашаючы голас у гэтай справе.

### Дыскусія каля „Першых Зернятак“.

У гэтым годзе выйшла беларуская граматка для хатняга навучаньня, апрацаваная С. Паўловічам, пад заг.: „Першыя Зерняткі“. „Граматка“ складаецца з лемантара і першай чытанкі і, агулам біручы, апрацавана добра, а выдана яшчэ лепш, бо сапраўды, з боку друкарскага і „чыстай“ пэдагогікі ёй закінуць няма чаго. Аднак з боку зьместу, асабліва з боку чысьціні бел. мовы, ёй закідалі і закідаюць розныя пахібы. Крытыцы „Першых Зернятак“ была прысьвечана цэлая зборка знаўцаў бел. мовы дн. 23. X. г. г. ў БІГ і К. Рэфэраваў др. Ст. Станкевіч, які ў даўгім рэфэраце выказваў пахібы мовы і зьместу кніжкі. Трэба прызнаць, што рэфэрат быў апрацаваны цікава і сумленна, падмацаваны навуковымі довадамі. Пахібаў з гледзішча чысьціні бел. мовы рэфэрэнт знайшоў вельмі многа, можа нават замнога, аднак вострая крытыка не паменшае вартасьці ягонага рэфэрату. Трэба толькі адзначыць, што гэты рэфэрат быў-бы шмат карысьнейшым, калі б пасьля рэфэрату была праведзена навуковая дыскусія над пахібамі мовы і зьместу кніжкі. Аднак замест паважнай навуковай дыскусіі мы былі сьведкамі дыскусіі, скажам, прынцыповага характару, якая не прынясла для навукі ніякай карысьці, а толькі паглыбіла ар'ентацыйна-асабісты падзел пасярод прысутных.

На наш пагляд „граматка“, як і кожны чалавечы твор, мае побач з добрымі старонамі і свае пахібы. Вось-жа для дабра бел справы трэба гэтыя пахібы знайсьці, выказаць, абаснаваць з боку навуковага, правесьці з гэтай мэтай рачовую дыскусію—і такім парадкам сабраць матар'ял дзеля паправак у другім выданьні. Усякі іншы падыход, напр. ар'ентацыйны ці асабісты, будзе нерэальны, а нават шкодны, як для кніжкі так і для бел. навукі.

### Ажыўленьне „Беларусаведы“.

Пры Віл. Унівэрсытэце існуе студэнцкая арганізацыя „Т-ва Прыяцеляў Беларусаведы“. Арганізацыя гэта, якая мае на мэце паглыбленьне пасярод студэнцтва веды аб Беларусі, ў прошлым акадэміцкім годзе бадай што замёрла. Пасьля вакацыяў мы бачым ажыўленьне гэтай карыснай арганізацыі. І так—дня 18. X. адбылася зборка, на якой паэт М. Танк чытаў свае творы, а 25. X. кс. В. Гадлеўскі прачытаў навуковую лекцыю на тэму: „Жаролы да гісторыі Беларусі“.

### Беларускае скаўцтва.

Дружына беларускіх скаўтаў, пасколькі мы ведаем, існуе толькі пры Віл. Бел. Гімназіі, носіць яна імя Францішка Багушэвіча. Дружына гэта мае пры гэтай-жа Гімназіі і Гурток сваіх прыяцеляў. Дн. 11. X. у салі Гімназіі адбылася агульная зборка прыяцеляў; пасьля адчыненьня зборкі і ўступнага слова старшыні Гуртка кс. Ст. Глякоўскага, скаўт К. Пауль прачытаў рэфэрат аб гісторыі беларускага скаўцтва. Потым прэзыдыюм Гуртка здаваў справаздачу аб сваей дзейнасьці. Пасьля дружыновы Кетурка даваў інфармацыі аб дзейнасьці дружыны і падаў плян працы на будучыню.

У плян працы на будучыню добра было-б уставіць на першым месцы праект пашырэньня беларускага скаўцтва на правінцыю. Маючы з аднаго боку на ўвазе высокія мэты скаўтынгу, якія выробляюць у моладзі агульна-чалавечыя, маральныя і народныя ідэалы, а з другога—дэмаралізацыю нашай вясковай моладзі, трэба далажыць усіх сіл, каб беларускі скаўтынг абхапіў як найболей беларускай моладзі. Гэтае заданьне павінны паставіць на парадку дня самі скаўты і іхныя прыяцелі!

### „Wiadomości Białoruskie“ [WB].

Пад гэтакім загалоўкам у гэтым годзе пачаў выходзіць у Вільні інфармацыйна-прэсавы бюлетэнь аб беларускім жыцьці. Бюлетэнь выходзіць нерэгулярна, дагэтуль выйшла 12 нумароў. Празначаны ён для польскай прэсы і дзеля гэтага адбіваецца ў польскай мове.

Інфармаваць польскую прэсу трэба, бо яна часта ня то што нічога ня ведае аб беларускім жыцьці, але і ня хоча ведаць. Калі гэта апошняе, дык ніякія бюлетэні нічога не памогуць — польская прэса як ігнаравала так і будзе ігнараваць існаваньне беларускага пытаньня ў Польшчы. Але бюлетэнь, ня гледзячы на гэты „байкот“ беларускай справы польскаю прэсай, павінен рабіць сваё, аж пакуль лёд ня будзе зламаны.

Аднак, каб гэта скарэй наступіла, трэба паставіць некаторыя вымаганьні і рэдакцыі „Wiad. Białoruskich“. Прадусім трэба паставіць бюлетэнь на належнай вышыне з боку польскай мовы. У нумарох 10 і 11 мы спасьцераглі такія грубыя памылкі, што сапраўды, знаўцам польскай мовы, чытаючым гэныя бюлетэні, мусіць вушы вянуць! Дык чысьціня польскай мовы — гэта першы варунак карыснасьці гэтага часапісу. А другі—каб весткі былі зьмяшчаны з *усяго* беларускага жыцьця, а ня толькі з прэсы БНА і зблізканай да яе. Бо перадрукаваць пару вестак з „Б. Крыніцы“ або „Самапомачы“ — гэта яшчэ ня ёсьць асьвятленьне усяго беларускага жыцьця. Каб бюлетэнь спаўняў сваю ролю, ён мусіць абняць *усе праявы беларускага жыцьця*, як сымпатычныя для рэдакцыі „Wiad. Biał.“, так і несымпатычныя. Але на гэта трэба поўнай бесстароннасьці і аб'ектыўнасьці з боку рэдакцыі бюлетэню, якая аднак выказала і выказвае нястачу гэтай аб'ектыўнасьці. Гэтая нястача адбілася і ў рэдагаваньні „Wiad. Białoruskich“.

### „Новы Шлях“.

З датаю 30. X. выйшаў орган бел. нацыянал-сацыялістаў „Новы Шлях“. Тон газэты ідэолёгічны і палемічна баёвы. У артыкуле „Супольна, але не ў-ва ўсім“ газэта рашуча выказваецца проціў супольнага сьвяткаваньня юбілеяў БІГ і К і ТБШ, хоць стаіць за супрацоўніцтва гэтых дзьвух арганізацыяў у агульна-беларускіх справах. У натугах некаторых дзейнікаў, каб злучыць ТБШ і БІГ і К, „Новы Шлях“ бачыць імкненьне „ўфрантавіць“ гэтыя арганізацыі ў „людовым“ фронце бяз іх ведама і згоды.

### З жыцьця ТБШ.

26. X. г. г. Управа ТБШ атрымала ад Віл. Стараства паведамленьне, што арганізацыйны сход з 5. VII. г. г. не прыняты да ведама. На гэтым сходзе, як ведама, была выбрана новая Галоўная Управа, а значыць, паводле пастановы старраства, гэтая Управа таксама не прынята да ведама. Кідаецца ў вочы тое, што паведамленьне старраства аб непрыняцьці да ведама наступіла на 4-ты месяц пасьля сходу...

### Канфіската бел. адрыўнога календара.

Бел. адр. календар на 1937 год сканфіскаваны адмін. уладамі. Справа перадана ў суд. Беларусы павінны ўстрымацца з купляй іншага календара, а пачакаць на свой—беларускі.

# На міжнародным грунце.

(*Агляд міжнароднай палітыкі за месяц кастрычнік*).

### Палітыка Саветаў.

Прыглядаючыся ўважна да савецкай *нутраной* палітыкі, мы спасьцярагаем у ёй вялікае хістаньне. Гэтае хістаньне з аднаго боку сьведчыць аб бязупыннай ініцыятыве Саветаў і іх энэргіі, а з другога боку — аб іх няўдачах. Ужо мала чуваць аб працах і дасягненьнях пяцігодак; людзі праканаліся, што ўсе пляны палепшаньня жыцьця ў Саветах не даюць рэальных рэзультатаў, бо як у буржуазных краінах пануе голад і холад, таксама і ў Саветах. За ўсе няўдачы ў „сацыялістычным“ будаўніцтве даўней вінавацілі буржуазію, потым кулакоў, а цяпер „трацкістаў“. Растрел павадыроў трацкізму тут мала памог, дрэннае палажэньне ўнутры Саветаў гэтым не папрэвілася. Былі нават разыйшоўшыся чуткі, што „трацкісты“ не растраляны, а толькі высланы ў далёкія краі, але нам здаецца, што гэтыя чуткі ня маюць пад сабою рэальнага грунту. Саветы не такія наіўныя, каб рабіць сабе ворагаў пася-

хістаньне, як праяў змаганьня нацыянальных матываў з матывамі клясавай барацьбы, каторыя ўканцы і перамагаюць. Колас у апошніх творах — гэта пясьняр пралетарскі. Важнае значэньне ў гэтым пераломе згуляў разгром беларускіх нацдэмаў, ліквідацыя ўсякага нацыянальнага зьместу беларускай культуры наагул і ў літэратуры асабліва. Аддаўшы гонары савецкім уладам, кам. партыі а наўперад Сталіну, успомніўшы аб падзеях у Гішпаніі, дакладчык расправіўся з трац.-зіноўеўскім контр-рэволюц. блёкам і беларускімі нацыяналістамі „ўсіх масьцей“, чым і кончыў свой даклад.

Парасейску прывіталі юбіляра: ад імя Цэнтр. Кам. Кам. Партыі Бел.—Ткачэвіч; ад імя старшыні Саўнаркому Беларусі—Бронштэйн; ад імя Акадэміі Навук Беларусі — Сурта; ад імя артыстаў Бел. Дзярж. Тэатраў у Менску — Рафальскі (жыд) даволі цёпла, які пажадаў юбіляру быць „пяўцом вялікага беларускага народу“.

Пабеларуску віталі апрача школьнікаў г. Менска: дэлегацыя стаханаўцаў Менска, дэлегацыя работнікаў друкарні імя Сталіна ў Менску (кароткія, сардэчныя і рачовыя былі гэтыя прывітаньні, далёкія ад „казённай“ фразэолёгіі), дэлегацыя ад менскіх настаўнікаў (казала быццам завучаную прамову аб клясавай барацьбе, савецкім патрыятызьме, высьцерагаючыся старанна нават слова „беларускі“). Ад імя Саюзу пісьменьнікаў БССР прывітаў паэт Александровіч, падчырківаючы ўздойм беларускай літэратуры і ўканцы Янка Купала, чытаючы верш, прысьвечаны свайму другу-юбіляру. Паэт, з уласьцівым яму ціхім гумарам, навязваючы да ўспомненых нагародаў Коласу, (Купала так-жа атрымаў раней самаход), выказаў пажаданьне, каб яны „паляцелі і на самалётах“. Апрача верша Купала нічога не сказаў.

З прывітаньняў гасьцей заслугоўвае на ўвагу прывітаньне Суркова—прадстаўніка Саюзу Савецкіх Пісьменьнікаў. Суркоў падчыркнуў вечную сілу паэзіі Пушкіна і Некрасава, якія найбліжэй стаялі да народу. У беларускай літэратуры гэткае становішча займаюць Колас і Купала. Іхняя блізкасьць да народу была прычынай чысьціні беларускай літэратурнай мовы, якая буйна разьвіваецца.

Цёплымі вершамі прывіталі юбіляра ўкраінскія пісьменьнікі Масэнка і Мурацей. Вітаў Коласа так-жа і прадстаўнік пісьменьнікаў г. зв. „Западной Области“ — Курдзюмаў. „Западная Обласьць— гэта Смаленшчына і іншыя беларускія этнографічныя землі, не далучаныя да БССР і асуджаныя на русыфікацыю.

Курдзюмаў вітаў, зразумела, парасейску і ані слоўцам ня ўспомніў, што „Западная Область“ — гэта тая-ж Беларусь, для якой юбілей Коласа— так-жа народнае сьвята, як і для Менска.

У сваім адказе на прывітаньні Колас спыніўся коратка над гісторыяй навейшай беларускай літэратуры за апошнія 30 гадоў і сьцьвердзіў яе буйнае разьвіцьцё. Ад казак і дробных вершаў да вялікіх паэмаў—вось ейны размах.

Сумуючы гэтыя зацемкі, немагчыма не зьвярнуць увагі, як мала агарнула беларусізацыя вышэйшыя ўрадавыя дзейнікі і ўстановы БССР. Каб прэзыдэнт Акадэміі Навук, сябрам якой зьяўляецца і Колас, ды вітаў найвялікшага беларускага паэта і з нагоды не абыякога юбілею—парасейску, рэч нязвычайна характэрная для адносінаў у БССР. Зьвяртае так-жа ўвагу, што афіцыяльныя дзейнікі інтарэсаваліся выключна „послужным списком“ Коласа, а запраўдная прычына сьвята — літэратурная дзейнасьць поэта іх ня цікавіла. Да некаторай ступені гэта і зразумела, бо-ж самыя гэтыя дзейнікі сьцьвярджаюць, што да 1933 г. Колас для іх не існаваў, а ад 1933 г. мінула яшчэ надта мала часу. Аб тым, што Колас праз усё сваё жыцьцё існаваў і працаваў для беларускага народу, менская акадэмія не сказала нічога. Трэба, каб аб гэтым сказала віленская акадэмія. *М. Ш.*

род заходня-эўрапэйскага работніцтва. А ўсім ведама, якім цяжкім рэхам пранеслася па ўсім сьвеце вестка аб растреле даўнейшых „павадыроў пралетарыяту“ і закладчыкаў 3-га інтэрнацыяналу, або, як цяпер завуць, камінтэрну. Дык пускаць у сьвет вестку аб растреле і разам з гэтым не растраляць — гэта была-б сьведамая памылка савецкага ўраду, а такіх памылак кожны ўрад высьцерагаецца. Як чуваць, Саветы ладзяць новы працэс процiў новай групе „трацкістаў“ (Радэк, Пятакоў, Сакольнікоў, Путна, Угланаў, Аркус і інш.). а ў Сав. Беларусі за „трацкізм“ арыштоўваюць і высылаюць беларускіх дзеячоў (даўней гэтае самае рабілі за „нацдэмаўшчыну“).

Гэтак прадстаўляецца нутраная палітыка Саветаў. Але яшчэ цікавейшая іх *заграгічная* палітыка.

Саветы на пачатку свайго існаваньня спадзяваліся на хуткую сусьветную рэвалюцыю. Дзеля гэтага яны ня ішлі на супрацоўніцтва з буржуазнымі дзяржавамі, а толькі пры помачы агітацыі стараліся здэзарганізаваць гэтыя дзяржавы. Калі-ж убачылі, што спадзяваная рэвалюцыя не прыходзіць, а процiў іх гатовяцца два магутныя ворагі: Японія і Нямеччына, яны перастаюць дзяржацца ў старане ад буржуазных дзяржаў, але навязваюць з імі цесныя адносіны, а нават уступаюць у буржуазную Лігу Народаў. Супрацоўніцтва гэтае ішло у адным адзіным кірунку: сарганізаваць з буржуазных дзяржаў блёк, які выступіў-бы процiў Японіі і Нямеччыны, асабліва процiў гэтай апошняй.

Чаму прадусім процiў Нямеччыны?

Трэба ведаць, што Нямеччына першая з дзяржаў абвесьціла крыжовы паход процiў Саветаў. Да гэтага часу ісьці вайною на Саветы не зьбіралася ніводная з дзяржаў. Тое, што гаварылася аб гатоўнасьці Польшчы або Англіі ваяваць з Саветамі — гэта чыстая выдумка; ані Польшч, ані Англія ані якая іншая дзяржава, ані нават Японія, ваяваць з Саветамі не хацелі, бо за вялікая была рызыка пачынаць вайну з узброеным ворагам і маючым яшчэ ў падмогу камуністычную агітацыю. Іншыя дзяржавы нават паддзержывалі камунізм у Расеі, бо ён аслабляў гэтую краіну і рабіў яе ня так небясьпечнаю для суседзяў... Ня тое Гітлер. Ён перад усім сьветам заявіў, што гатоў ісьці на Саветы, толькі каб яму далі волю... Саветы адчулі небясьпеку і пачалі мабілізаваць усе свае сілы процiў ворага. Унутры дзяржавы яны ўвялі вайсковую службу ад 19 гадоў, разбудавалі ваенны промысел, змотарызавалі армію, павялічылі лік бранявікоў, танкаў і самалётаў — усё гэта, каб бараніцца ад немца, бо вораг быў сапраўды страшны... Але ня толькі унутры Саветы мабілізуюць сілы, яны робяць тое самае і за граніцамі сваей дзяржавы. Тут яны пусьцілі ў ход сваю агітацыю і дыплямацыю з тэй мэтаў, каб акружыць Нямеччыну... Пры помачы агітацыі яны будуюць у кожнай дзяржаве «*людовыя*” *фронты*, якія прызначаны для змаганьня з фашызмам, а пры помачы дыплямацыі твораць *блёк процiўнямецкіх дзяржаў*. Як агітацыя так і дыплямацыя прынясла для Саветаў вялікія здабыткі. але не такія, якіх яны спадзяваліся. Праўда, «людовыя» фронты паўсталі, яўна або тайна. у кожнай эўрапэйскай дзяржаве, асабліва блізка па суседзтву з Нямеччынай, але да процiўнямецкага блёку Саветам удалося прыцягнуць толькі дзьве дзяржавы: Францыю і Чехаславаччыну. За трэцюю — Гішпанію — ідзе крывавы бой. Польшч і Бэльгія адмовіліся выступіць актыўна процiў Нямеччыны. Такім парадкам акружваньне Нямеччыны Саветам не ўдалося і ў апошніх днях кастрычніка былі нават разыйшоўшыся чуткі, што Саветы пакідаюць супрацоўніцтва з буржуазнымі дзяржавамі, але мы гэтым чуткам ня верым.

Трэба зьвярнуць увагу яшчэ на адзін спосаб акружваньня Нямеччыны савецкай палітыкай. Гэтым способам ёсьць *агітацыя за мір*. У верасьні месяцы яны былі зладзіўшы нават два пацыфістычныя кангрэсы (у Бруксэлі і ў Жэнэве), аб каторых мы ўжо пісалі. Часам аж дзіўным здавалася, што Саветы, якія заўсёды вясьцілі сусьветную рэвалюцыю і крывавае змаганьне з усімі буржуазнымі дзяржавымі, раптам зрабіліся змагарамі за сусьветны мір! Знаючы ўсе ходы савецкай дыплямацыі, нам цяпер стане ясным, чаму яны гэта робяць: яны мабілізуюць сусьветную апінію процiў свайго нямецкага ворага, які хоча на іх ісьці вайною і нарушыць мір... Агітацыя за мір дакацілася і да Вільні, дзе ў прэсе польскай і беларускай можам спаткаць артыкулы за мір. Адны гэта робяць нясьведама, змагаючыся сапраўды за мір, якога кожны чалавек жадае, а другія робяць зусім сьведама, ведаючы, што, як і да чаго...

Наш агляд заграгічнай палітыкі Саветаў ня быў-бы поўны, калі-б мы ня ўзялі пад увагу яшчэ аднэй мэты іхняй палітыкі, а іменна: выкліканьне *прэвэнцыйнай* (*ўпераджаючай*) *вайны* процiў Нямеччыны. Саветы ідуць да таго, каб Нямеччыну ня толькі акружыць, але і пабіць, перад тым, як яна ўваружыцца і прыгатуецца біцьСаветы... Але на гэты плян Саветаў ахвотнікаў няма, нават Францыя ня выяўляе вялікай ахвоты пачынаць вайну з Нямеччынай, а французская прэса пісала, што для Саветаў карысьней былоб, каб першы нямецкі ўдар скіраваўся на Захад, а не на Усход, але Францыя да гэтага дапусьціць ня можа... Ад паходу процiў Нем., як мы ўжо ўспаміналі, адказалася Польшч і Бэльгія — і такім чынам прэвэнцыйнай вайны, здаецца. ня будзе. Хіба што гішпанскія падзеі выклічуць нейкі агульна-эўрапэйскі закалот, у якім гарматы самі пачнуць страляць...

Затрымаліся мы даўжэй над савецкай палітыкай, бо яна ілюструе шмат выпадкаў з агульна-эўрапэйскай палітыкі. Саветы і Нямеччына сталі перад сабою, як два сьмяротныя ворагі. Змаганьне гэтых двух ворагаў нават на полі дыплямацыі вельмі цікава.

### *Палітыка Нямеччыны.*

Палітыку Ням. мы збольшага прадставілі вышэй у артыкуле, разглядаючы палітыку Саветаў, а так-жа характэрызалі яе ў прошлых нумарох »Б. Фр.« Цяпер пакажам толькі на тры кірункі нянямецкай дыплямацыі: 1) імкненьне да згоды на Захадзе, каб мець вольныя рукі на Усходзе, 2) будаваньне процiўсавецкага блёку, 3) дамаганьне калёніяў.

Нямеччына шукае прастору для сваей эканамічнай і народнай экспансіі. Яна ведае, што на Захадзе гэтых прастораў не здабудзе, дык зьвярнула свае вочы наУсход і заявіла,што гатова ісьці на бальшавікоў, толькі патрабуе на гэта згоды іншых дзяржаў. Але якраз гэтае згоды няма, бо з аднаго боку гразіць Францыя, а з другога— перашкаджае Польшч. Францыя зьвязана з Саветамі вайсковым даговорам, паводле якога павінна помагчы Саветам у выпадку заатакаваньня іх Нямеччынай, а Польшч хоча захаваць поўную нэўтральнасьць у нямецка-савецкім споры, бо ведае, што вайна паміж гэтымі двама волатамі будзе для яе няшчасьцем... (Дзеля гэтага Польшч падпісала пакты ненападаньня як з Саветамі, так і з Нямеччынай). Найболей спрыяе нямецкім усходнім плянам Англія, але вымагае ад Ням. адрачэньня ад усякіх калёніяльных імкненьняў... А тымчасам Гітлер у верасьні сёлета на зьездзе ў Нюрнбэргу заявіў, што галоўнымі мэтамі яго ёсьць змаганьне з камунізмам і здабыцьцё калёній... Дык і калёніяльнае пытаньне пастаўлена Нямеччынай на парадку дня. Некаторыя спадзяюцца, што страх перад разьвязкай гэтага пытаньня можа прысьпяшыць дэцызыю Англіі ў кірунку даньня Нямеччыне вольных рук на Усходзе, бо для Англіі будзе карысьней, калі Ням. упутаецца ў вайну з Саветамі і пакіне думку аб здабыцьці калёніяў...

Што-ж датыча процiўсавецкага блёку, дык сарганізаваць яго Нямеччыне не ўдаецца, бо ніхто ня хоча лезьці ў ваўну з Саветамі бяз ніякай для сябе карысьці. А сама Ням. на вайну не рызыкуе, бо зараз-жа магла-б паўстаць процiўнямецкая коаліцыя. Цяпер нямецкая палітыка стараецца выціснуць савецкую дыплямацыю з Эўропы, а савецкія ўплывы з Гішпаніі.

### *Гішпанскія падзеі.*

Пасьля гарачых спрэчак на камітэце для неінтэрвэнцыі ў Гішпаніі (такі камітэт існуе ў Лёндане), дзяржавы пачалі зусім яўна памагаць ваюючым старонам у Гішпаніі. На тым камітэце Саветы закінулі Партугаліі і Італіі дапамаганьне паўстанцам, на што атрымалі востры адказ ад гэтых дзяржаў, што гэта самі Саветы ўмешваюцца ў гішпанскія падзеі, пасылаючы мадрыцкаму ўраду грошы, аружжа і амуніцыю... А прадстаўнік Італіі назваў закід Саветаў паклёпам і шантажам! Нагул, такіх „моцных“ слоў, якія былі кінуты на гэтым камітэце, дыплямацыя ня помніць... А гэта знак, што агонь разгараецца. Італія і Саветы яўна дасылаюць помач аднэй або другой старане, а Саветы нават вызначылі ген. Горева на камандуючага мадрыцкай арміяй.

Аднак паўстанцы перамагаюць і ўжо здабываюць сталіцу Гішпаніі—Мадрыт. Але мыляўся-б той, хто думаў-бы, што з заняцьцем сталіцы скончыцца вайна. Як чуваць, мадрыцкі ўрад пераяжджае ў сталіцу Каталёніі—Барцэлёну. Каталёнія, здабыўшы для сябе поўную аўтаномію, будзе яе бараніць перад паўстанцамі ўсімі сіламі. А калі не абароніць, дык мае аддацца пад пратэктарат Францыі... Калі Францыя прыме гэты пратэктарат і стане ў абарону Каталёніі, эўрапэйская вайна загарыцца вялікім пажарышчам...

Цяперашняя вайна ў Гішпаніі носіць ня толькі народна-палітычны і грамадзкі характар, але і рэлігійны. Мадрыцкі ўрад, належачы да „людовага“ фронту, паліць сьвятыні, прасьледуе рэлігію, а прэм'ер гэтага ўраду, Лярго Кабалеро, якога называюць гішпанскім Леніным, атрымаў з Масквы нават тытул „гонаровага бязбожніка“? Дык дзівіцца трэба, што часьць беларускай прэсы („Б. Крыніца“ і за ею „Шлях Моладзі“) цьвярдзяць, што мадрыцкі ўрад ёсьць хрысьціянскі...

За мадрыцкім урадам можна прызнаць шмат чаго, толькі не хрысьціянства. А паўстанцам можна і трэба закінуць тое, што яны не прызнаюць аўтаноміі каталёнцаў і баскаў. Павадыр паўстанцаў, ген. Франко, заявіў, што пасьля здабыцьця Мадрыту ён пойдзе здабываць Каталёнію... Гэта будзе вялікая несправядлівасьць і дзеля гэтага сымпатыі ўсяго цывілізаванага сьвету будуць на старане каталёнцаў.

Паводле апошніх вестак паўстанцы штурмуюць Мадрыт.

### *Падзеі ў Бэльгіі.*

Мы ўжо ўспаміналі, што Бэльгія аб'явіла нэўтральнасьць у француска - нямецкім споры, а інакш кажучы, ня пойдзе актыўна процiў Нямеччыны. Гэта мае вялікае палітычнае значэньне, бо бэльгійская нэўтральнасьць, таксама як і польская, псуе ўсе савецкія пляны акружваньня Нямеччыны. Бэльгія быццам збаялася каб французскі «людовы» фронт не ўцягнуў яе ў вайну...

Апроч гэтага ў Бэльгіі адбываецца цікавы працэс тварэньня партыі хрысьціянскіх фашыстаў пад наз. «рэсістаў». На чале «рэксістаў» стаіць Дэгрэль, здольны малады чалавек, які хоча быць бэльгійскім Муссолінім. У апошніх выбарах у парлямант «рэксісты» неспадзявана здабылі каля 30 мандатаў. Гэта іх захвоціла да далейшых выступленьняў і нават да захапленьня ўлады. З гэтай мэтай яны аб'явілі дня 25-X паход на сталіцу Бэльгіі — Брукселю. Але тут спаткала іх няўдача, бо паход быў спраліжаваны ўладамі, а Дэгрэль арыштаваны. Пасьля няўдачы з паходам Дэгрэля выпусьцілі.

З нутраной палітыкі Дэгрэля найважнейшае тое, што ён патрапіў навязаць саюз з флямандамі (бэльгійскай нац. меншасьцяй), прызнаючы за флямандзкай мовай правы дзяржаўный мовы ў Фляндрыі. А цікавейшае за ўсё, што ў заграгічнай палітыцы Дэгрэль стаіць за саюз з Нямеччынай...

### *Розныя агульныя весткі.*

Спасярод іншых падзей, якія адбыліся ў кастрычніку, трэба адзначыць: канец арабскага паўстаньня ў *Палестыне*, якое Англія здушыла пры помачы танкаў, бранявікоў і аэрапляпаў. У *Аўстрыі* ўведзена дыктатура канцлера Шушнінга, які ёсьць у саюзе з Муссолінім і Гітлерам. У *Злуч. Штатах* Паўночнай Амэрыкі выбраны большасьцю галасоў даўнейшы прэзыдэнтРузвэльт, што выклікала здаваленьнеЯпоніі. Паміж *Японіяй і Кітаем* вядуцца перагаворы аб саюзе. Нямеччына прызнала за *Італіяй* анэксію Абісыніі. Францыя дагэтуль не дала *Польшчы* пазыкі, закідаючы ёй зносіны з нямецкай палітыкай.

## З Польшчы.

### *Ген. Рыдз-Сьміглы маршалам.*

10. XI. г. г. мае адбыцца наданьне годнасьці маршала Польшчы ген. Рыдз-Сьмігламу, прычым марш. булава мае быць дакранутай да булавы маршала Пілсудскага. Гэта мае значыць, што ген. Рыдз-Сьміглы ёсьць наступнікам марш. Пілсудскага.

### *ДА ЧЫТАЧОЎ „БЕЛАРУС. ФРОНТУ“.*

*Пачынаючы ад гэтага нумару „Б. Фр.“ мы спыняем некаторым адрасатам высылку нашага часапісу. Будзем гэта рабіць і ў будучыне; дзеля гэтага кожны, хто ўжо пазнаў нашу газэту і хацеў-бы яе атрымліваць рэгулярна, няхай прышле нам падмогу на выдавецтва або прынамсі пісьмо з просьбай ня спыняць яму газэты.*

*Адм. „Бел. Фронту“.*

**Рэдакцыйная калегія:**

*інж. Л. Дубейкаўскі,*
*мгр. В. Гадлеўскі,*
*мгр. М. Шкелёнак,*
*студ. В. Папуцэвіч.*

*Наступны нумар „БЕЛАРУСКАГА ФРОНТУ“ выйдзе 5-га сьнежня.*

Рэдактар-Выдавец: В. ПАПУЦЭВІЧ. Друк. Я. Левіна Вільня, Нямецкая вул. 22. Тэл. 21-14.